## Сярэдні Усход — чарговая фаза камуністычнага наступу

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

шым пасьпехам. Гэтымі аргумэнтамі ёсьць поўнае ўнезалежненьне ад заходняга каланіялізму й шчодрыя пасуленьні Саветамі гаспадарскае дапамогі адсталым з эканамічнага гледзішча арабскім краінам, так-жа абарона іхных нацыянальных інтарэсаў, быццам ігнараваных і загрожаных каляніяльнай палітыкай заходніх дзяржаваў. Апрача гэтага, Масква цынічна іграе на варожасьці арабскіх краінаў супраць Ізраэля і хітра выкарыстоўвае ізраэльска-арабскі канфлікт дзеля падбухторваньня арабскага сьвету супраць Захаду.

Сыстэматычная экспансія Саветаў у кірунку Сярэдняга й Блізкага Ўсходу, пачалася, як успаміналася, прыблізна два гады таму назад, калі тагачасны савецкі міністар замежных справаў Шэпілаў адведаў Эгіпт. Пачалося ад пастачаньня эўрапэйскімі сатэлітамі Саветаў, галоўна Чэхаславаччынай аружжа Эгіпту і іншым арабскім краінам, ад высылкі ў гэтыя краіны савецкіх спэцыялістых і тэхнікаў, ад абяцаньня гаспадарскае, тэхнічнае й вайсковае дапамогі і г. п. Усё гэта дало магчымасьць эгіпскаму дыктатару палкоўніку Насэру знацыяналізаваць Суэскі канал і выцiснуць адтуль Ангельцаў і Французаў. Калі-ж пад канец мінулага году ўспыхнуў суэскі збройны канфлікт, Саветы сур'ёзна думалі выслаць у помач Эгіпцянам сваіх «ахвотнікаў», але страх перад інтэрвэнцыяй Амэрыкі паўстрымаў іх ад гэтага рызыкоўнага кроку.

Трэба адцеміць, што палкоўнік Насэр ахвотна прыймае савецкую ваенную дапамогу й выкарыстоўвае свае прыязныя дачыненьні з Саветамі ў ігры супраць Захаду, але ня мае намеру камунізаваць свае краіны й замяніць яе на савецкага сатэліта. Таму Масква, не дасягнуўшы канчальнай мэты ў Эгіпце, пачала незалежна ад яго шукаць іншых пунктаў дзеля стварэньня сваей выпадовай базы на Сярэднім Усходзе. Выбар паў на Ярданію, дзе камуністычныя элемэнты, паддзержываныя Саветамі, прабавалі зрабіць камуністычны пераварот і здэтранізаваць прыхільнага Захаду караля Гусэйна. Толькі цяпер Вялікабрытанія неафіцыяльнай дарогай, — бо за пасярэдніцтвам сваіх дыпляматычных карэспандэнтаў — падала да ведама, што ярданскі пераварот прыгатаўляўся беспасярэдна Масквой. Шэф савецкае бясьпечнасьці генэрал Сераў прабываў апошніх 10 дзён ліпеня ў сталіцы Сырыі Дамашку і супольна з пракамуністычным шэфам сырыйскае разьведкі палкоўнікам Сэраям прыгатаваў пляны перавароту ў Ярданіі, які меўся быць праведзены пры помачы ярданскіх уцекачоў, што знаходзіліся на тэрыторыі Сырыі, і сырыйскіх камуністых. Гэтаму задуму перашкодзіла ўзноў Амэрыка, якая, на моцы дактрыны прэзыдэнта Айзэнгаўэра, адклікнулася на просьбу караля Гусэйна і выслала ў кірунку Ярданіі сваю 6-ю флёту. Такім чынам канфлікт быў зьлiквідаваны, бо Саветы не зарызыкавалі прыняць вызыў Амэрыкі, што магло-б прывесьці да адкрытага зь ёю канфлікту.

### САВЕЦКІ ДЭСАНТ У СЫРЫІ

Апёкшыся ў Ярданіі, Крэмль ня спыніў свайго наступу ў гэтым кірунку, але пастанавіў выбраць іншы пункт для сваей афэнзывы. Гэтым пунктам сталася Сырыя, дзе, як назваў апошнія выпадкі лёнданскі «Таймс», быў выкінуты савецкі дэсант.

Ход гэтых выпадкаў быў наступны. Спачатку езьдзіла ў Маскву сырыйская ўрадавая дэлегацыя, у выніку чаго Саветы згадзіліся даць Сырыі вялікую гаспадарскую й тэхнічную дапамогу на выгадных для апошняй умовах. Хаця аб вайсковай дапамозе нічога не ўспаміналася, але падчас перагавораў з сырыйскай дэлегацыяй увесь час прыймаў удзел маршал Сакалоўскі. Хутка пасьля гэтага Саветы пачалі масава дастаўляць у Сырыю сваё аружжа й высылаць вайсковых спэцыялістых і тэхнікаў.

Адразу-ж пасьля павароту сырыйскай дэлегацыі з Масквы ў Сырыі адбыўся пераварот і фактычная ўлада перайшла ў рукі вайсковае дыктатуры. Коратка перад гэтым успомнены пракамуністычны палкоўнік Сэрай, які разам зь Серавам прыгатаваў змову супраць Ярданіі, зрабіў пераварот у сырыйскай арміі й поўнасьцю апанаваў ейнае галоўнае камандаваньне. Было выкінута зь кіраўнічых становішчаў у арміі дзевяць прыязна настроеных да Захаду высокіх афіцэраў, абвінавачаных у «змове з заходнімі імпэрыялістамі» супраць незалежнасьці Сырыі, а іхнае месца занялі камуністыя або пракамуністычна настроеныя афіцэры.

У цэлай Сырыі вядзецца цяпер інтэнсыўная прасавецкая й антызаходняя прапаганда. Характэрна, што гэтая прапаганда ахвотна паслугоўваецца тыповай савецкай аргумэнтацыяй. Яна цьвердзіць, што Амэрыка, выступаючы супраць брытанскага й францускага каляніялізму, робіць гэта няшчыра, бо хоча выцiснуць адтуль уплывы Вялікабрытаніі й Францыі толькі патое, каб самой заняць месца гэтых дзяржаваў і далей праводзіць каляніяльную палітыку.

Сытуацыя ў Сырыі сталася на толькі паважная, што на Захадзе пачалі ўжо гаварыць аб Сырыі, як аб савецкім сатэліце. Апошнім часам даведваемся, што хутка выедзе ў Маскву наступная сырыйская ўрадавая дэлегацыя дзеля пэртрактацыяў аб расшырэньні савецкай гаспадарскай дапамогі й наладжаньня бліжэйшых гандлёвых дачыненьняў між абедзьвюма краінамі, а сырыйскі ўрад запрасіў кіраўнікоў Савецкага Саюзу адведаць Сырыю.

Сырыйскі прэзыдэнт Куватлі, які зьяўляецца праціўнікам камунізацыі Сырыі, нядаўна выяжджаў у Эгіпт, дзе меў доўгія нарады з палкоўнікам Насэрам. Былі пашыраныя слухі, што ён назад у Дамаск ужо ня вернецца й зрачэцца свайго прэзыдэнцкага становішча. Тымчасам Куватлі нядаўна вярнуўся ў Сырыю, што прывяло да некаторага ўспакаеньня апініі. Ён асьветчыў, што Сырыя ня будзе камуністычнай, астаецца нэўтральнай, але за апошнія выпадкі абвінавачыў галоўна Амэрыку, закідаючы ёй умешваньне ў нутраныя справы Сырыі, намаганьне прыцягнуць Сырыю да Багдадзкага пакту й дактрыны Айзэнгаўэра, а так-жа падтрымліваньне Ізраэля ў ягонай палітыцы супраць арабскага сьвету.

Ня трэба й даводзіць, то эвэнтуальнае апанаваньне Сырыі Саветамі прынесла-б неаблічальныя шкоды для Захаду. Саветы, здабыўшы ў Сырыі выпадовую базу, нязвычайна ўзмоцнілі-б дэструкцыйную дзейнасьць у іншых арабскіх краінах, намагаючыся зусім выцiснуць адтуль заходнія ўплывы і стварыць супраць Захаду моцнае заплечча з паўдзённа-ўсходняга кірунку. Да гэтага трэба дадаць, што праз тэрыторыю Сырыі праходзяць галоўныя нафтапроводы заходнеэўрапэйскіх дзяржаваў, якія былі ўжо раз перарваныя Сырыйцамі падчас суэскага канфлікту.

Таму нічога дзіўнага, што сырыйскія выпадкі выклікалі на Захадзе вялікае занепакаеньне й нязвычайна ажывілі дыпляматычную актыўнасьць.

### КЛІН ВЫГАНЯЦЬ КЛІНАМ

Зразумела, што ў ваблічы такой небясьпекі Захад прыймае ўсякія меры, каб не дапусьціць да савецізацыі Сырыі. Палажэньне Захаду цяжкае ў сувязі з тым, што ён ня можа дзейць беспасярэдна, бо дактрына Айзэнгаўэра ня можа мець прытарнаваньня ў выпадку Сырыі. Ня ў прыклад Ярданіі, дзе прыгатаўлялася камуністычная змова звонку і дзе кароль Гусэйн выразна прасіў Захад помачы, у Сырыі пераварот адбыўся ўнутры і тут ніхто не намераны прасіць помачы з боку Захаду.

Таму ўся заходняя акцыя праводзіцца за пасярэдніцтвам суседніх з Сырыяй музулманскіх краінаў, якія або варожыя камуністым і запрыязьненыя з Захадам, як Турэччына, Ірак, Саўды Арабія і Ярданія на чале з каралём Гусэйнам, або якія, хоць і няпрыязныя ў дачыненьні да Захаду, як прыкладам Эгіпт, але не хацелі-б савецізацыі Сырыі. Зь кіраўнікамі гэтых краінаў увесь час праводзіць нарады амэрыканскі дзяржаўны падсэкрэтар Лёй Гэндэрсон, які знаходзіцца цяпер у Турэччыне і зьяўляецца выдатным знатаком Сярэдняга Ўсходу і Савецкага Саюзу. Ён рэпрэзэнтуе палітыку войстрага курсу супраць камунізму і зьяўляецца гарачым прыхільнікам супрацоўніцтва з арабскімі краінамі.

Трэба, аднак, прызнаць, што намаганьні супрацьдзеяньня за пасярэдніцтвам самога арабскага сьвету зьяўляюцца мерапрыемствамі вельмі важнымі й поўнасьцю мэтазгоднымі, але недастатковымі. Недастатковымі для таго, каб сьпіхнуць Саветаў з тых пазыцыяў на Сярэднім Усходзе, якія яны ўжо занялі і на якіх дастаткова замацаваліся.

Даслоўна ўсе няўдачы Захаду ў розыгрышы з камуністычным сьветам мелі сваей галоўнай прычынай тое, што Захад перад кажным канкрэтным камуністычным наступам займаў вылучна абаронныя пазыцыі, а ніколі ня пераходзіў да контранаступу. У халоднай вайне, падобна як і ў вайне гарачай, контранаступ не абавязкава павінен быць прадпрыняты на тым адрэзку фронту, на якім наступае праціўнік, але там, дзе праціўнік зьяўляецца найслабейшым.

Такім найслабейшым пунктам праціўніка ёсьць сяньня сатэлітныя краіны Сярэдня-Ўсходняй Эўропы і сам Савецкі Саюз. Праўда, дзякуючы поўнай пасыўнасьці Захаду падчас савецкае масакры вугорскага паўстаньня, за зялезнай заслонай пануе пачуцьцё вялікае крыўды ў дачыненьні да Захаду. Ня гледзячы, аднак, на гэта, паняволеныя бальшавізмам народы ўсе свае надзеі на вызваленьне зьвязваюць усё-ж з Захадам. Таму яшчэ ня позна вярнуцца да палітыкі вызваленьня, пад лёзунгам якой рэспубліканская партыя й прэзыдэнт Айзэнгаўэр ішлі калісьці на выбары.

Ня можа быць найменшага сумлеву, што салідна і ў глябальным маштабе паведзеная палітыка вызваленьня, становячы наступ супраць камунізму ў галіне прапагандовай, палітычнай, дыпляматычнай і эканамічнай панічна перапалохалі-б Саветы й змусілі-б іх у іхнай собскай абароне да адступленьня. Гэта, на нашую думку, адзіны ратунак ад няўхільнай катастрофы, які можа гарантаваць поўны пасьпех і зусім не пагражае выбухам новае сьветавае вайны.

Язэп Каранеўскі

## Крызіс выпраўленьня ў Пэкіне

(Працяг)

У папярэднім нумары «Бацькаўшчыны» мы пачалі зьмяшчаць вытрымкі з артыкулу францускага журналістага Робэрта Гуена аб падзеях у Кітаі, выкліканых прамовай Мао-Цэ-Тунга, у якой дыктатар камуністычнага Кітаю высунуў тэзу магчымасьці расьцьвітаньня пры камунізьме «сотні кветак». Артыкул быў зьмешчаны ў францускай газэце «Ле Монд».

Працягваем зьмяшчаць вытрымкі з гэтага артыкулу, які падае непасрэдныя і пазьнейшыя вынікі кароткага пэрыяду «лібэралізацыі» камуністычнага рэжыму ў кантынэнтальным Кітаі.

*

«Калі вы маеце нешта сказаць — гаварыце. Калі вы гаворыце, кажэце ўсё». Вясной 1957 году газэта «Жэньмінжыбао» паведаміла, што гэтая новая тэма дня пададзеная самым Мао-Цэ-Тунгам. Газэта дабаўляе такую важную дэталь: «Калі вы гаворыце — ніякіх закідаў вам за гэта рабіцца ня будзе».

«Як захоўваюцца напачатку Кітайцы, якіх зьбіраюць на мітынгі, дыскусіі і крытыкі? Так, як-бы яны мелі зашыты рот. Яны баяцца гаварыць і прызнаюцца да гэтага ў падобных словах: «Мы дрыжым як польныя казякі на холадзе, — заявіў адзін прафэсар унівэрсытэту. Мы баімося цяперашняга адкручваньня гайкі. Галоўнае цяпер — гэта гаварыць. Але, калі я скажу ўсё, што думаю, ня будуць мяне трактаваць, як контррэвалюцыянэра?»

«Прадстаўнікі адной некамуністычнай сатэлітнай партыі ў Тыен-тсін заяўляюць, што яны за сваю крытыку баяцца рэпрэсіяў. Прафэсары пэкінскай авіяцыйнай школы хочуць лепш заставацца нямымі, «бо ўжо на працягу толькі год мясцовы камітэт партыі не падбадзёрваў ніякай дэмакратыі». На мітынгу Народнага банку неасьцярожная крытыка сьцьвярджае, што пасьля самі гадоў прымусовага маўчаньня людзі сталіся «стаячай вадой у лужыне». Крытыка ўдакладняе: «мы злосныя, але мы ня маем адвагі гаварыць... Аднак некаторыя ня могуць больш хаваць у сэрцах абурэньня. Яны страцілі страх помсты».

Робэрт Гуен піша далей:

«Як быццам лопнула запора і магутны паток крытыкі пачынае заліваць Кітай. Першы раз ад устанаўленьня Народнай Рэспублікі незадаваленьне выяўляецца ўсюды і адкрыта выказваецца. Першы раз, замест загадзя падрыхтаваных пахвалаў, чуюцца тысячы скаргаў. На месца гучнага сьмеху выступаюць боль і нянавісьць».

«Напачатку, найбольш спрэцызаванай і выклікаючай найбольшае ўражаньне крытыкай займаюцца тыя, што найбольш адчулі ўдушлівасьць новай кітайскай атмасфэры: інтэлектуалістыя, вучоныя, прафэсары, журналістыя і іншыя. Першы раз яны расказваюць тое, што перажылі.»

«Я меў зьвязаныя ногі і зашыты рот» — заяўляе ведамы сацыялёг. Ён расказвае, як ён быў змушаны, будучы прафэсарам, наведваць лекцыі марксізму і паўтараць іх напамяць, як ён не адважваўся ані слова больш пісаць і быў змушаны перадчасна пакінуць прафэсарскую працу. Цяпер ён, пад уплывам новай палітыкі, рэгабілітаваны.»

«Лё-Люнг-Шы, стары лібэрал, да гэтага часу верны і паслухмяны супрацоўнік камуністых, выступіў ад імя старога пакаленьня кітайскіх літаратараў і навукоўцаў... Ён выкрывае зганьбеньне і абясслаўленьне, якім шмат хто зь іх быў паддадзены з боку партыі. Ён пратэстуе ад імя ўсіх тых, каго падазравалі, выкідвалі зусім, або перакідалі на ніжэйшыя становішчы. Хімік, напрыклад, становіцца выкладчыкам ангельскай мовы; прафэсар — звычайным перапісчыкам у канцыляріі; малады навуковец, вярнуўшыся з дыплёмам з Англіі ці Амэрыкі, — сьціральнікам пылу або прадаўцом гарбаты.»

«Згуртаваньне кітайскіх пісьменьнікаў наладжвае сэансы крытыкі ў Пэкіне. Іхнае незадаваленьне выбухае ў наступных словах: пісьменьнікі наракаюць, што імі «кіруе» асацыяцыя, што яны аддзеленыя ад партыі мурам падозраньня, што іх клясыфікуюць на катэгорыі паводля ступені іхняй вернасьці рэжыму, што сябры партыі пагарджаюць імі...»

«Адзін з аўтараў заяўляе, што навет цяпер, калі крытыка модная, артыкулы, пісаныя паводля згары накінутых схэмаў, крытыкуюцца такімі-ж згары падрыхтаванымі мэтадамі». Адзін пісьменьнік расказвае аб вялікай труднасьці апублікаваць нешта таму, хто не зьяўляецца камуністым. Ён сьцьвярджае, што карпарацыю прыдушвае цяжар страху і атмасфэра пэсымізму: «Мы ня маем адвагі адкрыта выказаць нашу думку». Вялікі пісьменьнік Ляо-Шэ ... прызнае, што палітыка апанавала літаратуру.

(Заканчэньне на 3-яй б.)

## Творы Максіма Багдановіча 2)

1909

### ХРЭСЬБІНЫ ЛЯСУНА

З цыклю «Лясун»

Бор шумеў, навяваў зводны сон,
А у ім ціхі гул раздаваўся, —
Гэта ў небе лясун калыхаўся
На вяршынях вялізных сасон.
Яму месяц маркотны сьвяціў,
Падымалі крыжы ў неба елі, —
І у сіняй нябёснай купелі
Душу дзікую ён ахрысьціў.

* * *

Прывольная, цёмная пушча:
Вялізныя ліпы, дубы,
Асіньніку, ельніку гушча,
Між хвоі апалай — грыбы.

Ўсё дзіка, пустынна імшыцца,
Агністая сьпёка стаіць.
На моху між сьпелай брушніцы
Лясун адзінокі ляжыць.

Каравая моршчыцца скура,
Аброс цёмным мохам, як пень,
Трасе галавою панура,
Бакі выгравае ўвесь дзень.

Гляджу на яго я паныла, —
На сэрцы і жаль і жуда.
Ўсё зьнікла — і ўдаласьць, і сіла!
Прапала, як дым, як вада!

* * *

Сосны, елкі, хвоя, хвошчы,
Цёмны мох.
Чую я — лясун касматы
Тут залёг.

Паваліўся ён на хвоі,
На кары,
І усім калышыць, дзьвіжыць
У бары.

### СТАРАСЬЦЬ

Палаюць асіны, каліны,
Чырвоныя сыплюць лісты,
І вязкай жаўцеючай гліны
Цяжкія ўскрываюць пласты.

Брыдзець, пахіліўся панура,
Лясун на раздольлі дарог.
Старая абшарпана скура,
Зламаўся аб дзерава рог.

Дарога ўся ў лужах. Размыта
Дажджом праліўным каляя:
Гразь чаўкаець сквапна капыта,
Шуршыць, адпаўзае зьмяя.

Касматая шэрсьць перамокла,
Стаміўся стары ён, прадрог;
Лёд тонкі і войстры, як сьцёкла,
Капыты царапаець ног.

Сьпяшае дайсьці да трасіны:
Там — мяккія, цёплыя ймхі,
А тут толькі плачуць асіны,
Ды б'юцца галіны вальхі.

### ПУГАЧ

Загарэліся крывёю вочы. Мкнецца
Зь цёмнай елкі гук жуды і сьмеху
І далёка голас аддаецца, —
Пракацілася па лесе рэха.
Дрыжучы увесь, канца чакаеш ночы,
Ўсё здаецца — ўстаў Лясун вялікі, —
Чырванеюць зьлітыя крывёю вочы,
Не змаўкае сьмех глухі і дзікі.

### ПАДВЕЙ

Разгулялася вясёлая мяцель,
Прабудзіўся, ў поле кінуўся Падвей.
Ў галаву яму ўдарыў сьнежны хмель, —
І ня змог ён буйнай радасьці сваей.

Пляша, скача. Сьнег зрываецца, ляціць,
Веюць ў полі сьнегавыя рукава,
А Падвей нясецца, кружыцца, гудзіць,
Запявае, удалая галава!

Рвецца белы, рвецца, трэплецца насоў,
Разьляцеліся і кудры-валасы,
З трэскам падаюць галіны ад кустоў,
Енчаць, плачуць на раздольлі галасы.

Доўга, доўга будзе цешыцца Падвей!
Калі-ж зваліць хмель ў пуховую пасьцель, —
Белы сьнег яго схавае між палей,
Замяцець, уложыць буйная мяцель.

### ВОСЕНСКАЙ НОЧЫ

(З цыклю «Вадзянік»)

Чарнеецца сажаю вечар.
Дождж б'ецца аб хвалі ракі;
Гуляе, гудзе над ёй вецер,
Заводзіць, што ў полі ваўкі.

Спакойна мне тут пад вадою:
Залёг я ля мліну на дне;

# Сельскагаспадарскае пытаньне ў Беларусі

За апошнія сто гадоў у Беларусі ўжо чатыры разы мянялася форма землякарыстаньня. Аднак і да апошняга часу зямельная праблема засталася не разьвязанай, бо калгасная сыстэма не адказвае жаданьням і патрэбам беларускага народу. Таму абгаварэньне зямельнага пытаньня на бачынах «Бацькаўшчыны» бязумоўна вельмі пажаданае й карыснае.

Першая зямельная рэформа ў Беларусі адбылася пасьля скасаваньня прыгону. Аднак гэтая ласка цара Аляксандра II мала прынесла беларускаму сялянству радасьці й дабрабыту. Пры надзяленьні зямлёю былых прыгонных было зроблена шмат крыўды сялянству з боку абшарнікаў і розных земляўпарадкавальнікаў. Былая дворня, якая абслугоўвала абшарнікаў, не атрымала поўных зямельных надзелаў. Відаць, законадаўцы тады ўжо мелі на ўвазе, каб і нашчадкі дваровых заставаліся батракамі. Надзяленьне зямлёю праводзілася так, што ўсе нягодныя землі і балоты дасталіся сялянам. І наадварот, мурожныя і прырэчныя заліўныя сенажаці і найбольш урадлівыя палі ўвайшлі ў склад панскіх маёнткаў. Шмат вёсак было пазбаўлена навет выпасаў. У такіх выпадках было прыдуманае г. зв. «сэрвітутнае права». У выніку такой рэформы паміж сялянямі й абшарнікамі ўзьнікалі судовыя працэсы, якія звычайна заканчваліся на карысьць абшарнікаў.

Ня здолеў разьвязаць зямельнае праблемы і царскі міністар Сталыпін. Пасьля рэвалюцыі 1905 году ён прыняў надзвычайныя крокі да расьсяленьня буйных вёсак на хутары. Хутарская форма землякарыстаньня падабалася тым сялянам, якія ў вёсцы мелі каля 10—15 гэктараў зямлі. На такіх хутарох дабрабыт сялян у хуткім часе павялічваўся. Хутарская сыстэма разьвязала ініцыятыву сялян.

Аднак Сталыпін, сам буйны земляўласьнік, энэргічна абараняў недатыкальнасьць зямельнай собскасьці абшарнікаў і не знайшоў ніякіх магчымасьцяў, каб хоць на ўмовах выкупу павялічыць зямельны фонд вёсак, якія падлягалі расьсяленьню на хутары. У выніку такой палітыкі пры расьсяленьні вёсак было ўтворана шмат хутарскіх гаспадарак з 2-3 гэктараў зямлі. Такіх разьмераў хутар не забясьпечваў існаваньня сялянскай сям'і. Хутары, як і надзельныя землі, ня былі забясьпечаныя законам ад сямейных падзелаў, таму нямінуча празь некалькі год былі раздробленыя.

Пасьля Лютаўскай рэвалюцыі зямельнае пытаньне набыло надзвычайнае актуальнасьці. Сялянскія сходы, розныя зьезды і канфэрэнцыі на ўсе лады абгаварвалі шляхі новага пасьлярэвалюцыйнага жыцьця. Мяркавалася па-рознаму. Безьзямельныя патрабавалі зямлі, малазямельныя — законнай прырэзкі. Заможнае сялянства таксама разьлічвала на дадатковую зямлю.

Пасьля захопу ўлады на Беларусі бальшавікамі зямельнае пытаньне набыло яшчэ большае актуальнасьці. Савецкая ўлада прынесла з сабой ня толькі розныя абмежаваньні, але й вялікую галадоўку. З гэтае прычыны вясковая бедната, дробныя служачыя, а таксама і работнікі прадпрыемстваў, асабліва былыя вяскоўцы, шукалі ратунку ад голаду на зямлі. Хаатычна захопліваліся абшарніцкія, царкоўныя і іншыя землі, засаджваліся бульбаю, засяваліся грэчкаю, просам — тымі культурамі, якія больш патрэбныя дзеля харчаваньня. Поруч з гэтым, камуністычная прапаганда суліла заможнае й лёгкае жыцьцё ў сельскагаспадарскіх камунах, пад якія аддаваліся панскія маёнткі з жывым і мёртвым інвэнтаром. Беларускае сялянства адкінула «камунію», як новую форму землякарыстаньня. Камуністычная прапаганда не дасягнула такім чынам мэты. На Беларусі сельскагаспадарскіх камунаў амаль што й ня было. Сяляне чакалі ад новай улады сталага і ўстойлівага землякарыстаньня.

Між тым, яшчэ да захопу ўлады бальшавікамі беларускі нацыянальны актыў, згуртаваны вакол Рады БНР, ня зь меншай актыўнасьцю абмяркоўваў зямельнае пытаньне. Ужо тады фактычна выкрышталізавалася думка, што пасялковая форма землякарыстаньня больш за ўсякую іншую будзе адказваць умовам жыцьця і жаданьням асноўнай масы беларускага сялянства.

Практычнае правядзеньне ў жыцьце мерапрыемстваў дзеля падняцьця разбуранай войнамі сельскае гаспадаркі на Беларусі было ўскладзена на ведамага беларускага патрыёту народнага камісара земляробства БССР Зьмітра Прышчэпава. Выйшаўшы зь сялянства, ён добра разумеў прычыны адсталасьці сельскай гаспадаркі ў Беларусі. Апрача гэтага, Прышчэпаву ўдалося адведаць Данію й Нямеччыну, дзе ён дасканала пазнаёміўся із становішчам сельскае гаспадаркі ў гэтых краінах.

Прышчэпаў быў перакананы, што каб накіраваць у карацейшы тэрмін сельскую гаспадарку Беларусі на шлях прагрэсу, патрэбна безадкладна правесьці земляўпарадкаваньне. У першую чаргу неабходна было ўпарадкаваць запасны зямельны фонд, які знаходзіўся ў карыстаньні бяднейшага сялянства. Да арганізацыі пасёлкаў было прыступлена ў 1923 годзе, бо патрэбны быў час, каб падрыхтаваць значную колькасьць каморнікаў.

Пасёлкі нарэзваліся ад пяці да сямі гаспадарак. Кажны пасялковец надзяляўся зямлёю ў залежнасьці ад колькасьці душ у сям'і, але ня менш пяці гэктараў на сям'ю. У вызначаным месцы кажнаму пасялкоўцу адводзілася пад сялібу ня менш аднаго гэктара. На шырокай і выгоднай сялібе была поўная магчымасьць пабудавацца, а таксама адвесьці адпаведную плошчу пад гарод, пасеку або пад дамашнюю птушку. Бралася на ўвагу, што кажны пасялковец выкарыстае сваю сялібу паводля свайго густу й нахілу. Зямля адводзілася пасёлку непасрэдна вакол сялібаў і адразу-ж разьбівалася ня менш, як на пяць палеткаў.

Першыя гады існаваньня прышчэпаўскіх пасёлкаў паказалі жыцьцёвасьць гэтае сыстэмы. Пасялковае жыцьцё падабалася сялянству. Ня было тэй вясковай цеснаты, ні доўгіх вузкіх палосак з кудлатымі межамі. Ня трэба было траціць час, каб завезьці на палетак гной або зьвезьці ў сялібу ўраджай, бо ўсе палеткі знаходзіліся вакол пасёлку. Упарадкаваньне вуліцы, дарогаў, арганізацыя выпасаў, навет падшуканьне пастуха і цэлы рад іншых дробных пытаньняў на пасёлку разьвязваўся значна лягчэй і прасьцей, чымся на хутары.

Беларусь багатая тарфянымі балотамі, якія патрабуюць мэльярацыі. Арганізацыя гэтай працы цяжкая, але яна лягчэй можа быць ажыцьцёўленая ў пасёлках, чымся на хутарох. Ня трэба асобных довадаў, каб пераканацца, што сучасная асабістая гаспадарка ня можа абайсьціся ня толькі бяз простых, але й складаных сельскагаспадарскіх машынаў. Набыцьцё іх патрабуе значных сяродкаў і мэтазгоднага выкарыстаньня. Хутар ня ў сілах выкарыстаць сучасную тэхніку, у той час як пасёлак гэтую магчымасьць мае ў большай ступені.

Звычайна агранамічную, заатэхнічную і іншую дапамогу сельскай гаспадарцы павінна арганізаваць дзяржава, якой не абыякава, у якім кірунку будзе разьвівацца сельская гаспадарка ў краіне. Пры пасёлкавай сыстэме дзяржаўную дапамогу можна выкарыстаць з большай эфэктоўнасьцю, чымся на хутарох.

Пасялковец не адрываецца і ад агульнага грамадзкага жыцьця. Ён разам зь іншымі прымушаны руліцца аб школе, радыяфікацыі, электрычнасьці і іншых мерапрыемствах, так патрэбных і неабходных для сучаснага жыцьця. Пры ўсім гэтым ініцыятыва пасялкоўца нічым не абмяжоўваецца.

Напасьледак, пасялковец не адчувае сябе бездапаможным, бо ён жыве не на адзіноце. Ён можа заўсёды разьлічваць на хуткую й блізкую дапамогу ад суседзяў у няшчасьці й бядзе, якая нечакана можа зваліцца на чалавека ці навет на цэлую сям'ю. Тым больш, што ў пасёлак падбіраліся людзі добраахвотна, зьвязаныя сваяцтвам ці таварыствам і добрым знаёмствам.

Карысная й прагрэсыўная дзейнасьць Прышчэпава ў галіне перабудовы сельскай гаспадаркі й пераводу яе на пасёлкі была спыненая прымусовай калектывізацыяй. Пачалася яна плачам і роспачай тысячаў беларускіх сялянскіх сем'яў, якія доўгімі эшалонамі з усіх станцыяў у закратаваных вагонах накіроўваліся на пакуту ў Сібір, Котлас, на Амур і г. д. Сярод гэтых пакутнікаў сустракаліся й пасялкоўцы, якія за 4—5 гадоў, жывучы ў пасёлках, пасьпелі стацца «кулакамі». Нежаданьне йсьці ў калгас і сьмеласьць адкрыта адхіліць калгасны рай ды астацца на пасёлку былі запраўднай прычынай іхнай пакуты.

У часы калектывізацыі камуністычная прапаганда прылажыла шмат стараньняў, каб ачарніць сумленную й адданую дзейнасьць Прышчэпава. Прышчэпаў быў абвінавачаны ў тым, што на практыцы праводзіў у жыцьцё тэорыю нацыянал-дэмакратаў у сельскагаспадарскім пытаньні, якія хацелі ператварыць «бедную балоціста-сумную Беларусь у новую Данію». Карысная дзейнасьць беларускага патрыёты была пагардліва празваная «прышчэпаўшчынай».

Прышчэпаў быў арыштаваны й загінуў у салавецкім ізалятары. З таго часу прайшло больш чверці стагодзьдзя. Накінутая беларускаму сялянству калгасная сыстэма пакуль што яшчэ пануе па невясёлых вёсках і палёх Беларусі. Аднак дзейнасьць Прышчэпава пакінула глыбокую і добрую памяць сярод беларускага народу, бо яна несла сялянству запраўдны дабрабыт, дастатак сельскагаспадарскіх прадуктаў краіне і прагрэс, а не калгасны прыгон. Усе бакі жыцьця ў пасёлку пераконваюць, што пасёлак зьяўляецца найлепшай сучаснай формай землякарыстаньня ў Беларусі.

**В. Б.**

# Крыху аб гісторыі

**(Заканчэньне)**

Зацяты супраціў, аказаны Беларусамі Маскве на працягу шматлікіх стагодзьдзяў, мае таксама шмат супольнага з нацыянальным характарам Вялікага Княства Літоўскага. Было-б гэтае гаспадарства чужым для Беларусаў, яны напэўна адказаліся-б праліваць сваю кроў за інтарэсы другога народу, у гэтым выпадку за інтарэсы Летувісаў, і перайшлі-б на бок Масквы. Тым больш таму, як гэта гавораць, што ў ВКЛ яны, апрача «нацыянальнае няволі», перажывалі яшчэ й «рэлігійнае прыгнечаньне», а там, у Вялікім Княстве Маскоўскім, іх чакала «нацыянальная» й рэлігійная супольнасьць. Было аднак інакш. Беларусы аказвалі якраз найбольшы супраціў маскоўскай экспансіі, адмаўляючыся ўсялякага кампрамісу, не памерыўшыся сіламі на полі бітвы. Возьмем колькі прыкладаў, якія выразна схарактэрызоўваюць адносіны Беларусаў да ВКЛ, як да свайго собскага гаспадарства. Узбунтаваўшыся супраць вялікага князя Жыгімонта, а таксама супраць некаторых радных вялікакняжае Рады, дворны маршал князь Міхайла Глінскі задумаў быў у 1507 годзе зрабіць пераварот у ВКЛ. Заручыўшыся падтрымкай маскоўскага князя за кошт некаторых беларускіх земляў, ён у гэтым годзе падняў паўстаньне з намерам захапленьня ўлады ў свае рукі. Матывамі, якімі ён кіраваўся пры падгатаўленьні паўстаньня, былі абарона ВКЛ ад пасяганьняў Польшчы й абарона праваслаўя. Грунт быў моцны, бо сярод жыхарства ВКЛ было вялікае незадаваленьне з новае Мельніцкае вуніі 1501 году, якая прывяла да страты агромнае тэрыторыі на ўсходзе гаспадарства. Было таксама незадаваленьне часткі жыхарства з рэлігійнае палітыкі вялікіх князёў. Князь Глінскі ня быў аднак падтрыманы, і ён змушаны быў уцякаць у Маскву. Такім чынам Беларусы лічылі выгаднейшым заставацца ў саюзе з Польшчай, чымся набываць новага саюзьніка й прэтэндэнта на апякуна — Маскву. Зрэшты, пасьлей і сам князь Глінскі хацеў вярнуцца ў ВКЛ і перадаць здабыты ім у 1514 годзе Смаленск, аднак гэты новы загавор быў раскрыты, а князь Глінскі на доўгі час трапіў у падвалы Масквы.

Смаленшчына доўгі час стварала супраціў найбольшы маскоўскай экспансіі. Калі посьле доўгай аблогі паў Смаленск у 1514 годзе, ягонае жыхарства было выгнанае ў глыб Маскоўскага княства. Лёс смальнян падзяліла таксама буйнейшая шляхта ўсяе Смаленшчыны. На іх месца былі пасаджаныя Маскалі.

У 1563 годзе, пасьля захопу Полацку Маскалямі, было выразана амаль усё

**(Заканчэньне на 7-ай б.)**

# Крызіс выпраўленьня ў Пэкіне

**(Заканчэньне з 2-ой бач.)**

«Перад гэтымі закідамі міністар культуры Мао-Тун робіць самакрытыку. Ён прызнаецца, што пісьменьнікі не ўважаюць свайго згуртаваньня «сваім домам», як гэта мусіла-б быць, але бачаць у ім засільле дзяржаўных бюракратаў і разглядаюць апошніх за «сваіх настаўнікаў».

Робэрт Гуен працягвае:

«Падобныя сходы мелі месца і ў навукоўцаў. Абраз той самы: партыя імкнецца падпарадкаваць навуку сваім дырэктывам, яна не давярае навукоўцам,... яна не дае навукоўцам адпаведнай ролі ў плянаваньні . . .»

«Філёзафы з свайго боку выкрываюць грубую клясыфікацыю, якая накінута іхняй галіне навукі: людзі і ідэі клясыфікуюцца на дзьве павярхоўныя катэгорыі — на матэрыялістых і ідэялістых. Працуючыя ў гэтай галіне патрабуюць, каб прынамся студыі старых філёзафаў не падпадалі пад гэты «фармалізм».

«Лінгвістыя падымаюць голас у справе праекту рэформы пісьма, каторая пагражае ўсёй старой кітайскай культуры . . .»

«Узварушыліся ўсе сэктары культурнага жыцьця». «Цяпер гэта можна сказаць» — такім здаецца лейтматыў крытыкі, якая ўсьцяж узрастае. Выкрываецца мізэрная якасьць апублікаваных за сем год працаў, навадненьне кніжак цяжкіх да чытаньня і якіх ніхто ня купляе.»

«Журналістыя адбываюць мітынгі ў Пэкіне, Шанхаі і іншых галоўных гарадох. Яны наракаюць на тое, што карыстаюцца толькі кантраляванай свабодай, што напатыкаюць варожасьць з боку афіцыйных колаў і перашкоды з боку паліцыі. Заступнік рэдактара галоўнай шанхайскай газэты крытыкуе псэўда-журналістых, якія топчуцца на становішчах дырэктараў, а ў запраўднасьці зьяўляюцца толькі цэнзарамі і бюракратамі. Адзін з журналістых абвінавачвае рэжым у тым, што ён стварыў бар'еру паміж журналістымі камуністымі і некамуністымі.

«. . . Усе крытыкі, якія мы падалі, і ўсе пералічаныя выпадкі, якія ня зьмешчаныя даслоўна і поўнасьцю, узятыя намі з камуністычнай прэсы».

«Незадаваленьне рэжымам пануе ня толькі ў вышэйшых пластох насельніцтва, але і там, адкуль рэвалюцыя атрымала сваіх лепшых прадстаўнікоў: у работнікаў і моладзі.»

**(Заканчэньне будзе)**

**Пераклаў Дубовік**

Апруся на кола рукою, —
Млін казку старую пачне.

Кругі завіруюцца жорнаў,
Трасецца хадырна сьцяна;
А думы — як колас бязь зёрнаў, —
Усё мяне цягне да сна.

Бяспамятна колы піхаю,
Хілюся да дна галавой
І ўжо я драмлю, засынаю
Пад шум непагоды глухой.

**ЗЬ ПЕСЬНЯЎ БЕЛАРУСКАГА МУЖЫКА**

**I**

Гнуся, працую, пакуль не парвецца
Мне жыцьцё, як прагнілая ніць;
А каб ведаў, што столькі пральлецца
Майго поту, ня стаў-бы і жыць.

Адтаптаў сотні вёрст пехатом я,
Будаваў я дарожкі, масты;
Ліўся пот мой, як рэзаў на ком'е
Плугам глебы сухія пласты.

Працаваў над пяском, над дрыгвою
І ня мала там выцерпеў мук,
І ня прыйдзецца мне пад зямлёю
Гэтых чорных саромецца рук.

А канаць ужо час: пот і сьлёзы
Мне жыцьцё быццам мышы, грызуць;
Гора гне, як мяцеліца лозы,
Цэлы век не дае мне дыхнуць.

Шчасьце-ж гляне і ў даль пранясецца,
І магу я аб ім толькі сьніць . . .
Дык няхай-жа, няхай сабе рвецца
Мне жыцьцё, як прагнілая ніць.

**II**

Я хлеба ў багатых прасіў і маліў, —
Яны-ж мне каменьне давалі;
І тыя каменьне між імі і мной
Сьцяною вялізнаю ўсталі.

Яна усё вышай і вышай расьце,
І шмат каго дужа лякае.
Што-ж будзе, як дрогне, як рухне яна?
Каго пад сабой пахавае?

**«НАШАЙ НІВЕ»**

Віншую ад душы, панове,
З трохлецьцем вашае дзіця, —
Газэту ў беларускай мове.
Віншую ад душы, панове,
Яе, і ў простым, шчырым слове
Жадаю доўгага жыцьця.
Віншую ад душы, панове,
З трохлецьцем вашае дзіця.

**М. КІЦ-НАЙ**

Я, бяскрылы і хворы паэт,
Помню, раз я забыў сваё гора, —
Гэты цуд мне зрабіў Ваш прывет.
Я — бяскрылы і хворы паэт!
Мо жыцьця майго верш ужо сьпет, —
Дык няхай Вам хоць песьня гавора,
Як бяскрылы і хворы паэт
На гадзіну забыў сваё гора.

**ЦЕМЕНЬ**

**Ахвярую М. Кіц-най**

Я сяджу без агню. Я стаміўся, прамок.
Над зямлёю — імгла, у душы маёй змрок.
О, як пуста у ёй! О, як холадна жыць!
Але вось цераз цемень маланка блішчыць,
Асьвячае мне вобраз Хрыста . . . Яго крыж . . .
Ажываеш, здаецца, душою гарыш.
Але толькі чаму-ж так малы гэты час?!
Зноў навокала цемень. Бліск зірнуў і пагас.
Не глядзіць на мяне ясны вобраз Хрыста.
Над зямлёю імгла, у душы пустата.

*
* *

Дождж у полі і холад . . . імгла . . .
Дзесь у вёсцы міргаюць агні.
Там схавалася ў страху, лягла
Доля горкая ў чорным сьцяні.

І пад цёмнымі крыламі ночы
Не пабачаць цяпер яе вочы.

Толькі вецер асеньні начой
Ў полі сумна гудзіць і пяе
Аб радзімай старонцы глухой
Ды аб долі няшчаснай яе.

Цісьне сэрца мне песьня начная . . .
Хай-жа голасна вецер сьпявае,

Хай пяе ён у роднай зямлі,
Каб у сэрцах нам сорам збудзіць,
Каб змагацца зь няпраўдай ішлі,
Ў чым сэрцы сумленьне ня сьпіць.

Долю чорную ноч не схавае,
Калі выльлецца песьня жывая!

**1910**

# Літаратурны Дадатак

Уладзімер Дудзіцкі

## Новыя вершы

*
* *

Нашы думкі трывогай будзяцца:
а ці прыйдзе яна, ці збудзецца? . .

I калі, у якім-жа месяцы
сум грымотамі хмар разьмесіцца? . .

Ці увесну, ці позна ўвосені? —
і чакаем яе і просім мы:

— Не спазьніся, Сястрыца-Вольніца,
сказаць слова сваё Нявольніцы:

«Калі думкі трывогай будзяцца —
Я прыйду. Спадзяваньне збудзецца!»

*
* *

Сьціскаюць хвалі пеністыя мора
маіх чаўноў скрыпучую тугу,
а я кладу паволі на вагу
драбніцы ўцех і смоль тугую гора . . .

— Хутчэй, дзівак! — рагоча непакора,
шпурляючы на чорную дугу
адвагу,
спрыт,
чаўноў маіх вагу
і ўсё, што ў думках песьціў я учора . . .

— Муштруйце, штормы, гнеў душы, абы
на выспу цела вынесьлі гарбы
глыбінных бураў із паўторнай раты!

На выспах — дзікім нетрыве скалы —
прабуюць сілы мужныя арлы,
растуць вызвольнікі і грозныя піраты . . .

*
* *

Сіняе і чыстае такое,
хоць да раны сьвежай прылажы.
Толькі не дастаць яго рукою,
ня пераступіць ніяк мяжы . . .

Выгнуліся гоні, тракты, вёрсты,
і дарожкі лесам зарасьлі.
Дык скажы мне, дружа, шчыра й проста,
як мы прывітаемся й калі?

Журацца і вербы, і ракіты,
і рабіны ў восенскай імжы
клічуць мяне, кажучы: які ты —
родны полю, блізкі, ці чужы?

Што сказаць далёкім, сэрцу блізкім
пра зьгібеньне зім маіх і лет?
Вецер нашчацінены з калыскі
бацькаўскай пагнаў мяне у сьвет.

Доўга буду жыць яшчэ, ці мала,
але сэрцу мроіцца адно:
моцна да вачэй маіх прыпала
поля васільковаго відно —
сіняе і чыстае такое,
хоць да раны сьвежай прылажы.
Толькі не дастаць яго рукою,
ня пераступіць ніяк мяжы . . .

* * *

Напярэймы зары ўсё ішоў,
а зара узяла дый пагасла.
I зацiснуўся надаўга шоўк
маіх мрояў тугім перавяслам,
бо зара узяла дый пагасла.

Не гляджу я цяпер на усход,
бо на ўсходзе зара ня іскрыцца.
I ці мала йшчэ высьмягне год
у жыццi сінявокай сястрыцы,
бо на ўсходзе зара ня іскрыцца.

### ДЗЬВЕ ДАРОГІ...

Дзьве дарогі — два шляхі
дзіўныя такія:
і дабро ўсё, і грахі
валочацца зь кіем.

А куды й чаго яны —
аніхто ня скажа,
пакуль грэх — дух сатаны —
дабру ног ня зьвяжа.

Бо дарогі тыя ўсе —
першая й другая, —
як той колас на касе,
рэжуць сэрца краю.

Трэйцяй розруху няма:
абцугі ды клешчы.
Закаваная, сама
сваё шчасьце плешча.

Дзьве дарогі — два шляхі
прыкрыя такія:
і дабро ўсё, і грахі
валочацца зь кіем.

### ПРЫЙШЛІ І ВЕРНЕМСЯ...

Зь зямлі прыйшлі і вернемся ў зямлю,
каб пасьля тленьня цела, ліній, нормаў
(агнём душы цяплю шлях і жыўлю)
укласьці зьмест свой у інакшасьць формаў;

супольствам сілаў сьвет стварыць такі,
каб, з прышласьцяй сустрэўшыся нашчадкаў,
зайздросьцілі стваральнікам вякі,
эпохі й пакаленьні ўсіх пачаткаў;

каб грэшнікі і грэшныя багі
зямлі, што ганьбяць створ сьвятых вышыняў,
канчаючы злачынных спраў кругі,
у петлях выпрасталі дугі шыяў . . .

Усё, што ў думках пешчу і пладжу, —
даўно ўжо дух людзкое сілы кратаў,
хістаў дзікунства стромую мяжу,
каб уваскросу морак ня прыпратаў . . .

Зь зямлі-ж прыйшлі і вернемся ў зямлю,
каб пасьля тленьня цела, ліній, нормаў
(агнём душы цяплю шлях і жыўлю)
укласьці зьмест свой у інакшасьць формаў!

### УРЫВАК З ПАЭМЫ «ГРАНІТНЫЯ АБВАЛЫ»

. . . Я-ж бачыў, як зблiжаліся яны, —
грымотных гор гранітныя абвалы.
Ляўшун імчаўся зь левай стараны,
Правун — із правай. Моцны, вытрывалы,
зьгінаў заміны шляху, быццам-бы
адзіны ён трымаў у шчопцях сілу,
што ўсё сатрэ — і горы, і гарбы
ад поўначы да мутных хваляў Нілу,
каб далей потым рынуцца — туды,
дзе горы горамі пакуль ня біты,
дзе з хмарамі гавораць гарады,
дзе земляў некранёных дрэмлюць міты . . .

Правун спыніўся. Гора Ляўшуну.
над горамі лягло цяжкое гора.
Здалося, грэшнікі разгойдвалі труну
над штормамі страхотных хваляў мора.
У лютай празе сьмерці, ня жыцьця,
зірнуўшы на вяршыні гор і скалы,
Правун, абняўшы чорны згубы сьцяг,
зьвярнуўся да маўклівае навалы:
«Гуртуйцеся, няўломкі-камяні,
аброслыя імхамі ціхалюбы . . .
У выцертым з грудзей зямных вагні
ня бачу я ні вусьцішу, ні згубы.
Разьвітранаму — стромы шлях, круты,
пастаўлены на хіб сьпічасты кону.
За посьпех наш, зьнішчальных бур, браты,
малюся я ўсямoжнаму Дракону! . .
Няма й ня будзе сілы і раўні
магутнаму . . . Праз горы, долы й гацi
праб'емся мы, і як ты нас ні гні, —
скарыцца сьвет, і сьвету ўсе багацьці
да нашай, веру, скоцяцца гары . . .
Я пра адно сягоньня толькі мрою,
каб сьвет сказаў: «Бяры ты нас, бяры —
жыйцё і кроў — гранітнаму гэрою! . . »
Кіпіць мой гнеў! Ня ён, Ляўшун сівы,
адродзьдзе гідкае Казьбеку і Уралу,
а Я і Мы ля берагоў Нявы
ушчунем злыбеды усходнюю навалу!
Дык пеце-ж кубак пеністы віна,
зьгібелі каб нікчэмных шпатаў залпы.
Над прыкрасьцяў — касьцямі Ляўшуна —
на зайздрасьць сьвету узьнясуцца Альпы!»

Хаўрусьнік-жа, абветраны, руды,
падбіты ўжо атрутай трупнай мору,
зірнуў здаля на дзікі спрыт жуды —
патрушчаныя плечы касарогу,
і хлынула з каменнага нутра,
расьпечанага палам хцівай прагі:
«Хто сьмее ў горле горнага цара
тушыць пажар і пляміць нашы сьцягі?
Нясем мы сьвету нормы і правы,
нам кажны камень — госьць і брат жаданы . . .
Із ног і рук, пакуль 'шчэ сам жывы,
ідзем здымаць стравечныя кайданы . . .
Прабуе хай Правун крануць . . . Каля
уласных гораў пахавае косьці!
Цалуйце зоры роднага Крамля —
крыніцу перамогі й маладосьці! . .

З расколін кручаў — шчэляпаў труны —
шпурнуўся друз адборны першай раты . . .
Сьцяной зыйшліся ў стыку валуны —
хаўрусьнікаў разбойныя піраты.
Трагічны гром! Крышыліся шчыты
грымотных гор, каб гора не зацерці.
Ад роўніка да нетраў Варкуты
зьгінаўся сьвет у танцы дзікай сьмерці . . .

Уладзімер Дудзіцкі

Рыгор Крушына

## Вячорная лірыка

*
* *

Мой сад увечары маркотны, задуменны,
I кветкі кволыя, пачуўшы ночы страх,
Льлюць водыр воцату і мёду — брагі пеннай,
Перад заходам сонца гэты войстры пах.

А скрозь зьмяняюцца і хварбы і адценьні,
Пажоўклы ліст цішком хаваецца ў гальлі.
Калі праменьні дня ў вапошнім зіхаценьні
Хмялёвай злосьцяй мацыёлы зацьвілі.

Як проста казачна ў кашлатай зелянiне!
Расьце там шэпат чараваны, звышлюдзкі.
I ўсьцяж спалохана ў паветры змрочна-сінім
Цыгаркі, запаліўшы, гасяць сьветлякі.

Ты з пожні спозьнена зьбіраешся да хаты,
Галодная, з душой засмаглай, а жывой.
Не абмінай! Заходзь у сад мой небагаты, —
Знайдзі спакой у ім,
і вызнай, што я твой.

23. 6. 57.

*
* *

Выйду ў поле-красату,
Дзе цьвітуць валошкі.
Там вянок табе спляту,
Мо суцешу трошкі.

Можа станешся маёй
Ціхамройнай песьняй,
I крынічнаю бруёй,
I вясной Палесься.

Маладосьць пачну гукаць.
Дзе-ж магла згубіцца?

(Заканчэньне на 5-ай бач.)

*
* *

Вось і ноч. Нада мною сьлязьмі заліліся нябёсы,
Смагла цягне расу ўся сухая і пыльная глеба;
Раскрываюцца краскі начныя, як выпадуць росы,
Раскрываецца сэрца маё пад сьлязінкамі неба.

I ня выказаць мне, як у час той яно пацяплела,
Як даверліва, шчыра гарачыя словы шаптала;
Але сіняе неба, пачуўшы іх, змрочна цямнела,
I сьляза пакацілася ў хмарак і ў цемень упала.

1910

* * *

Ноч імглою шызай зямлю абліваe,
На траве раса, як жомчуг, зігаціць.
У шызым небе зорак россып залатая
Ціха іскрыцца-дрыжыць.

У гэткі час душа шырока разгартае
Крылы белыя, пагнутыя жыцьцём
I, змахнуўшы вольна імі, узьлятае
Ў царства казкі, ўсё авеянае сном.

* * *

Залілося сьлязьмі быццам зоркамі
Неба сіняе, безьбярэжнае
Над лагчынкамі, над узгоркамі,
Над табой, маё поле сьнежнае.

Без канца кругом шыр халодная . . .
Шмат я йшоў па ёй, затаміўшыся;
Але вось пачуў сэрца роднае,
Ўраз пачуў, душой зь небам зьліўшыся.
Грудзі ўпалыя распрасталіся, —
Ты ня страшна мне, поле чыстае!
Нада мной сьляза абарвалася
Ўніз, гарачая і агністая!

* * *

Ціхія мае ўсе песьні, цёмныя, як вугаль чорны,
Але ўсё-ж яны засьвецяць, калі я ў вагні мучэньня
Іх разжару, распалю;
А як згасьне ён — дык бліснуць, быццам дыямэнтаў зёрны,
Бо абернуцца, застыгшы, у каштоўнае каменьне
Ў час, як лягу я ў зямлю.

* * *

Скрылася кветамі ў полі магіла,
Зарасла бур'яном і травой,
I ўжо памяць людзкая забыла,
Хто пахаваны тут пад зямлёй.

I ўжо, пэўна, ніхто не спазнае,
Што ня просты пяшчаны курган,
А старая магіла сьцяпная
Там ляжыць, дзе красуе бур'ян.

Ці-ж ня гэтак схаваў ад вас, людзі,
Мае мовы блеск пекны і жар
Тут тугу, што цісьне мне грудзі,
Ад каторай марнее пясьняр?

### РАМАНС

Не знайсьці мне спакою ні цёмнае ночы, ні днём,
Бо любоў мяне мучыць і паліць пякельным агнём.
Але ведама: каб, апаліўшыся, боль заглушыць, —
Трэба толькі да раны халоднай зямлі прылажыць.
Пэўна прыйдзецца мне пахавацца ў сырую зямлю,
Каб суцішыць мучэньні і тую забыць, што люблю.

### СЬМЕРЦЬ ЗЬМЯІНАГА ЦАРА

(З цыклю «Зьмяіны цар»)

Цемень. Сосны. Елкі. Мох. Кара.
Сьмерць прыйшла ўжо да мяне . . .
Разгарыся, вячорная зара,
У туманнай вышыне.

Цёмнай ночы страшна у жальбе
Паміраць. — Шуміць трава,
Глуха дзяцел у дрэва б'е,
Гучна гукае сава.

А памрэш — прыцісьнуць грудзі пласты
Гліны. Ўстану-ж на яру,
Падыйму галоўку праз кусты,
Гляну ў неба і пamру.

Скоціцца карона, пабяжыць
Залатая ў шэры мох.
Чорны крот магілку прыдзе рыць.
Дрогне вецер на кустох.

Месяц бырзьне хваляй серабра,
Расой блісьне ў нізіне . . .
Разгарыся, вячорная зара,
У туманнай вышыне.

### ВЕЧАР

На небе месяц стаў зялёны
I хутка стане сьнегавым.
Над лесам, дзе шапочуць клёны,
У небе месяц стаў зялёны . . .

Ўсё сыпіць. Ня бачыць сьвет стамлёны,
Што сьвецячы праз хмарак дым,
У небе месац стаў зялёны
I хутка стане сьнегавым.

Міхась Кавыль

# ВЕРШЫ

## МУЗЕ

Цябе ніколі я ня клікаў,
Сама ты зь некуль нечакана
Ў хвіліны ўзьнёсласьці вклікай
Мне несла роздыхі Баяна.

Рукою сноў ускалыханы
Паперу браў, пяро у рукі;
З крыві расхлюпанае раны
Бруілі болі згубнай гукі.

Кунегай сэрцы песьціў мала,
Ня ў ногу рытмы кавылялі,
Стыхіі пеніліся хвалі . . .
Ты мне ні слова не казала.

І мо таму часамі сорам
На голас даўні аглядацца,
А забіякі злосным хорам
Клююць на сотні варыяцый.

Цябе ніколі я ня клікаў,
Аж для сябе нат нечакана
Прашу — суворай і вялікай
Прыдзі ў сугучнасьці чаканай.

1957 г.

## ВІЛАНЭЛЬ

З табою быў я справядлівы.
Прайшоў па сэрцы дзідай час,
Цяпер я грэшны, нешчасьлівы.

Ці раз я чуў твой сьмех глумлівы
І дакараў сябе ці раз.
З табою быў я справядлівы.

Мяне вялі душы прылівы,
Сьвятых надзей агонь ня гас.
Цяпер я грэшны, нешчасьлівы.

Пад'юджваў юны дух гульлівы,
Ў пароках багне часта граз.
З табою быў я справядлівы.

У сьне лавіў твой цень трымсьлівы,
Насіў партрэт твой на паказ.
Цяпер я грэшны, нешчасьлівы.

Паблытаў сьцежкі век імклівы,
Каханьня слодыч — не для нас.
З табою быў я справядлівы,

Цяпер я грэшны, нешчасьлівы.

1957 г.

## МЯРЭЖА

**(Карона санэтаў).**

### I.

На стромы шпіль усходжу спакваля.
Апошні крок да краю . . . З высі гэткай
Гранітны рыцар срэбнай статуэткай
Сусьмяніцца у засені гальля.

Тускнее хмараў белая ральля,
І месяц вілы ў рукі . . . Вочны сьветка.
На дне цясьнінаў будняў апэрэтка,
Пасьцель асфальту . . . Кружыцца зямля . . .

Ды толькі міць затхлань у горле комам,
Агнёў далёкіх моўкны перазвон,
Шарэш па скуры, пот халодны, стома: —
Бяруць пад рукі войныя узьвевы . . .
Яшчэ адзін датрыманы канон.
Утораць сэрцу срогія напевы.

### II.

Утораць сэрцу срогія напевы . . .
Мінуйце дом мой, Бахус і Эрот!
Любіў і я заснуць на ўлоньні Эвы,
Сачыць дзяўчат у рэчцы праз чарот . . .

Сьлязой шайтана спражыў горла, рот;
Каўбы шчарнелі з горкае улевы.
Сьлімак бязкроўны прагне падагрэвы,
Што тых прыгодаў прайдзісьветны мот.

Цяпер сябе ушчуню постам шчырым,
Шаленства смазе — лёд бруі у віры,
Замест віна — бязьвінны вінаград.

Мо й добра, што адкрасавалі ружы,
Вішнёвым сумам раніць просінь сад,
Студзёны вецер каля брамы кружыць.

### III.

Студзёны вецер каля брамы кружыць.
Бадзяга вольны стэпу і бароў
Самлеў у чадным водгульлі муроў,
Ліству увішна шастае у лужы.

Зямля, сьпятрэлая, жадае сьцюжы,
Бы той жабрак у роспачы дароў.
Гарачая у жылах стыгне кроў:
Праходжу шлях сьлізготны і калюжы.

А хтось у сьцены грукае што-ночы,
Гукае, суліць, плача і хахоча . . .
Сьвятло у спальні зыркае гашу.

Цяжэй вярыгаў горыч успамінаў.
Хацеў бы звадзіць роскашшу душу . . .
Як рады даць? Ля Нёману пакінуў.

### IV.

Як рады даць? Ля Нёману пакінуў . . .
— Ах годзе! Сьлёзы ўпалі у цане.
Налі, братуха! Існасьць у віне . . .
Ты праў, паэт . . . А слаўную дзяўчыну

Я меў . . . Бывала, прыдзе да мяне,
Пасядзем блізка, блізка . . . За чупрыну
Рукою возьме. Не, кажа, загіну,
Калі з табой штось стане на вайне.

Гадзіньнік выбіў дзьве. Шынкар, пузаты,
Лянотна выцадзіў: «Пара да хаты!»
Ну, рыхцік доўбней ліру аглушыў.

Пад плотам спаў і сон сьніў: на прывале
Праміж паходаў, зморных, у цішы
Пра вочы любых воіны сьпявалі.

### V.

Пра вочы любых воіны сьпявалі,
І мо таму у схопішчах ліхіх
Хадзілі ўвішней гострыя штыхі,
Гэрояў грудзі краталі мэдалі.

Яны цьвятамі ўквечвалі шляхі,
Каханыя Алесі, Зосі, Галі . . .
Ад іх пагляду пасінелі далі.
Пакутніцы за нечыя грахі.

А вы, што рыбы, млосныя, на пляжы,
Па балях, п'яных, похаці ў катажы
Сумуеце, спраквіліце зару!?

Няхай-бы шчэ раз над зямною тваньню, —
Уцяць агонь нянавісьці й каханьню, —
Сьпякотнай пугай палыснуў пярун.

### VI.

Сьпякотнай пугай палыснуў пярун —
Пярэстай хмары трэснулі пастронкі.
Па гонтах град лупцуе, ў перагонкі
Лятуць вятры, вясёлыя, угрунь.

Іграе сонца на мільёнах струн,
Азонам душыць у бары сасонкі.
Ярыла, добры, ў цёплыя пялёнкі
Ахутаў шчэпы маладыя, рунь.

Мурзаты сьнег схаваўся на узьлеску.
Прад сьмерцю сіліца зьнявечыць ён
Красы пяршуньню, сінюю пралеску.

Сівы дзівак! Твой белы прах растане.
Ў зялёным княстве сьні апошні сон:
Цьвяты вясна кунежыць на кургане.

### VII.

Цьвяты вясна кунежыць на кургане,
Напўна, прыдзе зь цёплых тых краін;
На шыр маўклівых, спаленых раўнін
Сінявым вокам баязьліва гляне.

Клярнэтам, флейтай працюрлыча раньне,
Гаркавы дым падымецца з руін . . .
У чадзе, шуме бэзу і шыпшын
Апаліць вусны першае каханьне.

Пранёсшы горыч праз усе шыроты,
Сьмяротна ранен сумам адзіноты,
Паэт прысядзе помніку каля.

Ён выме томік спад ізрэбнай крысы
І прагукае прывідам у пысы:
— На стромы шпіль усходжу спакваля! . . .

1957 г. **Міхась Кавыль**

## СМАГА

Расою буйнай сьпёкі смагу
Ня ўтоляць пальмы у пустэльні.
Спадзеўны гымн, глушы развагу,
Насталыгіі агонь пякельны.

Пустэльні што? Я ня пустэльнік,
Ня сьніць мне сны ў цянётах пальмаў.
Мне-б там, дзе стромы звоніць ельнік,
Дзе ў дуб стагодні пярун пальнуў,

Сачыць разгульле навальніцы,
Шаптаць малітву у затульлі . . .
Забудзь. Глядзі на камяніцы,
Бадзяйся вывіхамі вуліц,

Улевай соды ўтольвай смагу,
Што тыя пальмы у пустэльні.
Спадзеўны гымн, глушы развагу,
Насталыгіі агонь пякельны.

1957 г.

# Вячорная лірыка

**(Заканчэньне з 4-ай бач.).**

Будзе ў памяці сьпяваць
З даўных дзён драбніца:

Я ў матулі на руках . . .
Поле каля гаю.
Сіні брылік васілька
Ў каласох зрываю.

Захапленьня першы ўскрык . . .
Тэй парой ня ведаў,
Што пачатак песьні ўзьнік,
Добры голас дзедаў.

Слова — жніўнае цяпло
З подыхам духмяным,
Зазьвінела, загуло
Над глухім бур'янам . . .

Я хачу пачуць адно
Шчасны крык дзіцяці;
На руках цябе даўно
Ў сьвет нясу, як маці.

25. 6. 57.

* *
*

На сьцяне сацьмела фота.
Мілы твар ахутаў змрок.
Толькі ўсьмешка, як самота,
Засталасяназнарок.

Таямніча выглядае
Тая ўсьмешка з вуснаў, воч . . .
Не сказала маладая,
А ў сабе схавала ноч.

Можа дробныя пачуцьці
Той час дужымі былі,
Ды цьвілі ў людзкой пакуце
Ўсімі праскамі зямлі . . .

Гэта-ж сёньня выступае
З даўніны паўдзёны шлях,
Па якім прайшла сьляпая
Наша радасьць без развагі,

**Наша дзікая ахвота**
Лашчыць сонца на траве . . .
На сьцяне сацьмела фота,
А усьмешка ў ім жыве.

21. 7. 57. **Рыгор Крушына**

## МАЯ ДУША

Мая душа, як ястраб дзікі.
Што рвецца ў неба на прастор,
Варуе вольных птушак крыкі, —
Мая душа, як ястраб дзікі.

Пачуўшы іх, страсе вялікі
Свой сон, шыбне ды вышай гор, —
Мая душа, як ястраб дзікі,
Што рвецца ў неба на прастор!

## НАД МАГІЛАЙ МУЖЫКА

Сьпі, бядак! Накпіла доля над табою:
Ты рабіў, а ўвесь здабытак твой — труна;
Ўсе жыцьцё сваё змагаўся ты зь зямлёю,
Але ўрэшце ўсё-ж асіліла яна!
Над табой пласт гліны цяжкай навапіла,
Грудзі ўпалыя прыціснула пяском . . .
Дык скажы ты мне, халодная магіла:
Для чаго-ж змагаўся цягам ён з жыцьцём?

## ПЕСЬНЯ ПРА КНЯЗЯ ІЗЯСЛАВА ПОЛАЦКАГА

**(З «Слова аб палку Ігаравым»)**

Ізяслаў-князь, сын Васількаў
Даўнымі часамі
Аб літоўскія шаломы
Пазваніў мячамі;
Адняў славу ён у свога
Дзеда, у Ўсяслава,
І улёгся нярухома
На траве крывавай
Пад чырвонымі сваімі
Роднымі шчырамі,
Ўвесь пасечаны, пазьбіты
Ворагаў мячамі.
Усхапіў ён тую славу
І прад сьмерцяй кажа:
«Крылы птух тваю дружыну
Прыадзелі, княжа,
І зьвяры кроў палізалі . . .»
У баі крывавым
Ня было ні Ўсевалода,
Ані Брачыслава.
Ураніў самотна зь цела
Ён душу ўдалую
Цераз пацерку на шыі,
Цераз залутаю.
Засмуцілася вясёласьць,
Песьні замаўкаюць,
І жалобна, сумна трубы
У Гародні граюць.

## НАД МОРАМ

Учора йшчэ буры раскаты грымелі, выў вецер шалёны, насіліся чайкі над морам, як белае сьнежнае ком'е і цёмназялёныя хвалі увышу ўзмывалі сьцяною, рассыпаўшы белыя кудры; ўзмывалі, каціліся ў моры, адна па аднэй набягалі на дзікі, абрывісты берег, — і бурыя скалы трасьліся пад вагай іх цяжкіх udараў, сваімі грудзямі на бырзгі вады разьбіваючы глыбы. Паветра стагнала, і хвалі пад грукат і гул пагіналі так горда, вясёла і вольна, пакінуўшы думкі аб сьмерці!

І я быў вясёлы і горды. І мне пачуцьця волі хваля, налюнуўшы, ўпалыя грудзі высока ў гару падыймала, змываючы з сэрца ўсю ціну. І ўсё, што ў ім спала глыбока, тады прабудзілася разам, зрабілася цэльным, магутным. І чуў я, свабодны і моцны, так, чуў, што і я чалавек!

. . . . . . . . . . . . . . .

Мінулася грозная бура, а мора дасюль яшчэ б'ецца. Ў бязьмежным сьвінцовым абшары ўздымаюцца дзе-ня-дзе хвалі, ідуць без надзеі, бяз волі, панура да берагу люнуць, аб скалы ударацьбясьсільна і зьгінуць з глухою нудою.

Шкада мне вас, шэрыя хвалі, шкада ўсёй душой надарванай, ўсім сэрцам, ужо апусьцелым: вы-ж — родныя сёстры мае!

* * *

Тая крыніца, што раньш к акіяну нясла свае хвалі,
Высахла, зьнікла зь зямлі; не галубяць дрыжачыя струйкі(?)
Моцнае цела яго, бо ўзьляцелі ўгару на праменьні
Парай празрыстай і там парабіліся стаяю хмарак.
Але ня могуць забыцца яны акіян многашумны —
Нат у нябёсах і стуль адбіваюцца ў гладзі люстранай.

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ «НАШАЙ НІВЫ»

**(На чацьвертыя ўгодкі яе)**

Вас днём нараджэньня газэты віншую!
Гарачы прывет вам ад сэрца ўсяго!
Народ ужо к шчасьцю за вамі прастуе,
Вядзеце-ж і далей яго.
І што-б ні нясло вам жыцьцё, гэтым рухам
Жывеце, ідзеце будзіць вы народ
І шчыра працуйце ўсім целам і духам,
Што-ж будзе, — пабачым за год!

## З ЦЫКЛЮ «ЛЯСУН»

Я спакойна драмлю пад гарой між кустоў,
Лес прыціхнуў, — ні шуму, ні сокату.
Але чую ў цішы нада мной звон падкоў,
Чую гул мяккі конскага топату.

Ці ня гукнуць, каб рэха па лесе пайшло,
Каб з касьцямі ў кавалкі разьбітымі
Нехта біўся ў крыві, каб мне можна было
Усю ноч рагатаць пад ракітамі?!

**1911**

* * *

Пэўна любіце вы, пане, між балон старых, пажоўклых кнігі, ўжо даўно забытай, адшукаць сухі цьвіток. Пабляднелі яго хварбы, ледзь трымаюцца лісточкі . . . Але колькі ён прабудзе ў сэрцы кволым пачуцьця! Чаму вы цьвіток хавалі, што жадалася, забыта, — ўсё ўсплыве ў душы і збудзіць мілых

# Шумавіньне

Слова і — слава. Складана і проста. І спадзеўнае ўсё, як прыстань далёкая. Яшчэ крышку і ўжо відзён квяцісты бераг. Даплывеш — вянок, а не — вір закруціць, і нат сьледу не застанецца. Узыйшлася бура на моры, і пена на хвалях, і шумавіньне — бруднае і шэрае — узьбягае на бераг.

Слова ўпартае. Слова прынаднае. І хмельны гонар, і цьвярозы ганарар, і шчодрыя авансы пры гэтым.

Бура бушуе. Расьце шумавіньне ля прыстані...

☆

У Менску ў Доме Пісьменьніка было неспакойна. Трывожны шэпат і зьдзіўленае:

— А ты яшчэ тут?

— Ты-ж бачыш. Дзякуй Богу, шчэ ня хворы...

☆

Брынклівы званок і ля тэлефону сівая барада-лапата.

— Каго? Багуна? Маракова? Іх няма ўжо...

Стары швайцар цяжка ступае да дзьвярэй і адчыняе іх. Вельмі-ж затхлае паветра ў гэтым доме!

У сівой барадзе хаваецца густы смутак.

Што думае стары? Можа аб гэтым ліхалецьці? Аб неспакойным часе? Зьнікаюць адзін па адным пісьменьнікі: Баранавых, Мікуліч, Скрыган ...Арыштавалі ўжо і малодшых, менш знаных.

І Дом Пісьменьніка зусім пусты, асірацелы. Ня чуваць цяпер у вялікай залі ні сходаў моладзі, ні вясёлых гукаў раялю. І ніякіх скокаў там.

А было: балетмайстар Аляксютовіч — стары, а такі спрытны і жвавы — круціўся ў залі, вучыў беларускіх паэтаў.

І-і раз, і-і два!.. І танго, і факстроты, і чарльстоны. Ну вот бавіліся. І нічога кепскага ў гэтым. Ажно, бач, няшчасьце! Бяда вытанцавалася. Гінуць добрыя людзі...

Такія невясёлыя думкі ў старога.

Дом Пісьменьніка пачалі наведваць маладыя, незнаёмыя людзі. Блукаюць па пакоях, гойсаюцца на мяккіх крэслах, голасна міжсобку гутараць і нахабна рагочуць. І кажны зь іх задзёрысты і самахвальны. І лучыць іх адно — грубая хванабэрыя і бяздушная пусьцьня. Навет і ветлівасьці няма людзкой. Пройдзе такі абібок — ніякай увагі на швайцара, на ягоны паклон і вокам ня міргне.

Вось адзін дзяцюк з вусікамі Чарлі Чапліна, — высокі, як жураў ля студні, — з важна надзьмутым выглядам, у капялюшы і зь люлькай у зубах. Прэцца — ня пытаецца. Адразу да тэлефону:

— Алё! Хто гаворыць? Паэт Буравей? Добры дзень, браток. Гэта гаворыць паэт Сталёвы. Прыходзь у Дом Пісьменьніка. Тут зьбіраюцца нашы хлопцы. Пагаворым, абмяркуем справы. Ёсьць цікавыя навіны. Ну, пакуль...

Справа ад дзьвярэй, у пакоі чутны гучныя галасы і сьмех. У гутарку ўрываецтва грубаваты роблены бас. Гэта гаворыць пісьменьнік Цяляткін. Ён гаворыць паволі і як-быццам сур'ёзна. Вельмі-ж ён падобны на Сталёвага: і такая манера трыманьня, і навет такі-я-ж чаплінскія вусікі, і ў руцэ абкураную люльку трымае.

— У сучасную беларускую літаратуру цяжка ўвайсьці, навет немагчыма, без марксыцкіх ведаў, — павучальна, з апломбам пачынае Цяляткін. — Трэба вучыцца і вучыцца. А самае галоўнае — трэба дамагацца праўдзівага адлюстраваньня сацыялістычнага будаўніцтва. Гэта, таварышы, факт. У літаратуры ляжыць вельмі сьлізкая дарога і не адзін, як мы бачым, спатыкнуўся і ўпаў тварам вобзем. Шмат хто зышоў з простай дарогі і апынуўся ў варожым лягеры. Я, таварышы, заўсёды стаю на марксыцкай плятформе, і ў маіх творах вы ня знойдзеце палітычных памылак, як няма, спадзаюся і ў вашых, таварышы. Мы ўсе разам творым сабой маналіт, які ўвойдзе ў гісторыю нашай літаратуры.

Наваколл запляскалі ў далоні. Нехта крыкнуў: Брава! Ура!

— Балбатун, — прабурчэў Сталёвы, грызучы люльку. І сабе цішком напэўна падумаў: «Піша хітрун пра тхароў і катоў, а нам тут пра марксызм пляце».

Паджылы чалавек у акулярах сядзеў побач зь Цялятнікам і задаволена ківаў галавой. Калі-ж ўвайшоў Буравей, падняўся такі гоман-шум, быццам і сапраўды бура павеяла.

— Знаёмцеся. Паэт Буравей. Наш прызнаны талент. Друкуецца ў «Полымі», — атэстуе Сталёвы свайго сябру.

Чалавек у акулярах пацісьнуў руку «прызнанаму таленту» і, цярэбячы сваю казьліную бародку, саладжава хіхікнуў:

- Хі-хі. Вельмі прыемна. Маю гонар, так сказаць, сустрэцца з паэтам. Я, ведаеце, таксама таго... пішу вершы. А сам я, можна сказаць, па прафэсіі канструктар, вынаходнік... Працую над складанай формулай «пэрпэтуум мобіле». І ведаеце? Зайздрасьць у людзей... хі-хі... На мяне паклёпы рабілі. Хацелі ў дом вар'ятаў пасадзіць. А цяпер я разумею... Усё гэта ворагі народу. Яны мне перашкаджалі. Хацеў свой плянпраект прапхнуць праз друк. Ну хоцьбы ў вершаваным выглядзе. Быў я летась у габінэце маладога аўтара. Ажно і там заціскаюць. Сядзіць там такі... як яго...

— Хведаровіч, — падказаў Буравей. — Праўда, цяжкаваты ў кансультацыі. Да кажнага радка чапляецца. Але ўсё-ж такі, прызнацца, маладым аўтарам памагае. І мне давялося...

— Эт, якая дапамога ад клясавага ворага, — перабівае нехта збоку.

Зьбянтэжаны Буравей вылупіў вочы.

— Няўжо? І Хведаровіча арыштавалі?

— А ты хіба ня чуў? Учора ізноў падчысьцілі. І Шушкевіча ўзялі і Піваварава...

Загаманілі ўсе разам. Чалавек у акулярах задаволена цёр далоні і паскудна сьмяяўся.

— Хі-хі! Цяпер пачынаецца. Калі нітка рвецца, дык ірвецца і кашуля. Вось нарэшце дачакаліся! І мы возьмем стырно карабля. Мы паплывем. Літаратура ў нашых руках.

Кучаравы хлопец сеў на стол і весела ўскрыкнуў:

— Усё йдзе на лепшае. Нам, маладым, прачышчаецца дарога. Апрача народных паэтаў, засталіся лічаныя адзінкі. Няма нам канкурэнтаў! Пустое месца ў літаратуры трэба запоўніць сьвежымі сіламі. І мы гэта зробім. Б'е перамогу наш барабан: ідуць першымі ў шэрагах Буравей, Бурдзель, Бачыла, Няхай. Якія звонкія імёны пазнае блізкая будучыня!

— Дзівак, — сцэптычна махае рукой Сталёвы. — А мяне і ня прыгадаў. Ну, і добра. Усёроўна ім ня першымі існці.

— Чаму ня першымі? Ты думаеш, што тыя, высланыя, з Поўначы вернуцца праз дзесяткі гадоў? І тады зноў зоймуць свае месца?

— Не, я так ня думаю, але можа ўсё стацца. Іх шмат — Дубоўка, Пушча, Кляшторны, Хадыка, Лужанін, Звонак.. Усіх на пальцах ня пералічыш. Можа хто і ўцалее, можа хто і вернецца...

Кучаравы хлопец засьмяяўся:

— Калі каторы і вернецца, дык ужо ня той, што быў... Адшрубаваная гайка моцна ня трымаецца. Разумееце?

— Гэта праўда! — узрушана сказаў Цяляткін. — Моладзь цяпер пойдзе ўгору. Іхныя таленты пачнуць выяўляцца. А было сапраўды цяжка. Што і казаць! Мне, напрыклад, як майстру слова — дваццаць год на літаратурнай ніве працую — мне, кажу вам шчыра, таксама ставіліся перашкоды. Усюды ворагі народу сядзелі. Па ўсіх рэдакцыях зьдзекваліся над аўтарам. Маё апошняе апавяданьне абстрыглі, як авечку, зьмянілі цэлыя сказы, паперакручвалі радкі, нейкія незразумелыя — пэўна нацдэмаўскія — словы паўстаўлялі. І ў гэтакім жахлівым выглядзе надрукавалі ў «Беларускім піянэры». Вось бачыце! І я ня мог навет пратэставаць перад грамадзкасьцю. Гэтак неаднакроць рабілі зы мной, з кваліфікаваным пісьменьнікам. Ну, а з вамі, напэўна, горш было. Але цяпер ужо годзе?

У пакоі воплескі. Ізноў зашумелі-загаманілі ўсе разам.

Словы скаргі і крыўды сыпаліся адусюль. Лаялі былых рэдактароў, выказвалі надзеі на будучыню. Кажны меў слова і кажны думаў аб славе.

Бура ня сьціхала. Расло, падымалася з мулам і трэскамі шумавіньне ля прыстані.

**К. Рамановіч**

**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

## *ВЕРШЫ*

* * *

Ахрып крычаць я нашча,
Нішчымны пошчак лушчыць.
Ашчэрацъ моцшы пашчу
У частым шасьце пушчы.

Расхвошча меч ахвоча
Удушша ночы панішчын.
Чаму чарнец прарочыць:
— Прапашчы час, прапашчы?

Шчыльней, нашчадкі, шыхты!
Штурмуйце жах пячэрны!
На ушчунь чысьці штых ты
Расхрышчанае чэрні!

1957 г.

### НЕ ЎЦЯЧЫ

У хвіліну вольную пасьпешна йду
У прасьцяг шырокі, дзе цьвяты і травы.
Забыцца хочацца пра дзеі, справы,
Уцячы, схавацца ад трывожных дум.

Чмялі і пчолы карагод вядуць,
Зь цвятамі шэпчуцца таемна травы.
Якія ў іх, жывых, бяздушных, справы?
Куды схавацца ад трывожных дум?

У места шумнае пасьпешна йду.
Асфальт ды камень... Дзе цьвяты і травы?
Хвалююць іншыя тубыльцаў справы.
Не, не ўцячы мне ад трывожных дум.

1957 г.

### ПРАШУ НЯ ШМАТ

Прашу ня шмат: кунегі, ласкі,
Спагадных слоў і цяплыні.
Жыцьцё, я ведаю, ня казка,
І людзі — згорбленыя пні,

Тугой пакрытыя карою;
Сьвідруе шашаль іх душу.
Цябе хрысьцілі пад зарою,
Пад ветру воплескі і шум.

З тваіх грудзей ліліся песьні,
Віла вянок ты маіх сноў.
Чаму ружовы ранак весьні
Не паўтарыць табе узноў?

Няўжо блакіт засьвідзеў казкі?
О, людзі, згорбленыя пні!
Прашу ня шмат: кунегі, ласкі,
Спагадных слоў і цяплыні.

1957 г.

* * *

Прайшоў гульлівы лівень.
Грымотаў грукат ня змоўк.
На поплаве і ніве
Траву, ячмяні патоўк.

Вісіць кляноў ярмолка,
Падраная, над хлявом.
З вазёр ваду вясёлка
Квяцістым п'е рукавом.

А там, дзе бліскавіца
Агольвае грэх вятроў,
Прысела ноч ваўчыцай,
Аблізвае сонца кроў...

1957 г.

* * *

Цьмуцяроў ад чарнакніжжа
Сьмерцядайнаю хмарай займглі!
Сонца рану не заліжа
Агнягрывая бура зямлі.

Зноў ад крэменя і лука
Пачынацьмуць тубыльцы пячэр.
На грымотных крыльлях гуку...
Мы ляцім у сьмяртэльны ашчэр...

1957 г.

**Міхась Кавыль**

згадак доўгі рой. Ў думцы зноў пражывяцё вы беззваротныя часіны, і для вас каштоўным стане гэты высахлы цьвіток.

Вершы, вершы дарагія! Спарадзіў я вас, маленькіх, ў час, калі мне уздыймала грудзі хваля пачуцьця. І няхай яно з вас зьнікла, хай зьбляднелі вы, засохлі, ўсё-ж вы будзіце мне згадкі, і за гэта дзякуй вам. Не абміне і чытач вас. І ў яго калісь бывала мысьль, супольная з маёю, тая-ж хваля пачуцьця. Ўсё калісь пережытое пакідала сьлед у сэрцы і ляжала нярухома цёмнай залежай, пластом. Разварушце-ж, мае вершы, гэты пласт: хай згадка згадку кліча, цягне, хай чытач мой зноў былое пражыве!

* * *

Бывае, вада перапоўніць
Ставок і праз бераг памкнецца;
Калі-ж зь яго выйдзе ўвесь лішак,
Дык далей вада не бяжыць.

Бывае і так, што руйнуе
Заставу вада; ў гэту пору
Бруяцца апошнія хвалі,
І сохне няшчасны ставок.

З паэтамі такжа бывае:
Адзін аддае людзям лішкі,
Другі ўсё, што мае. Я гэткі:
Пяю я з надтрэснутым сэрцам,
Апошні свой скарб аддаю.

### Д. ДЗЯБОЛЬСКАМУ

Быць можа, пуціна жыцьця
Лягла пярсьцёнкам, друг,
І я ў краіне забыцьця
Ня раз раджаўся, як дзіця,
Прайшоўшы поўны круг.

Быць можа, я ня скончу жыць,
Бо ў ім няма канцоў.
Зноў шлях знаёмы пабяжыць,
І ўсё, што мозаг мог забыць,
Перажыву я зноў.

Быць мо ў прасторы беза дна
Ўвесь час мой круг ляціць,
І навіна ўсяго адна,
Што ў іншым месцы пуціна
Інакш мо заблішчыць.

І ў новым сьвеце пройдзе ўсё
Былое прада мной...
Што-ж: хай канчаецца жыцьцё,
Хай зноў зварушыцца чуцьцё
Мінулай пуціной.

### ШАМАН

«Баян» — вялікі, нядаўна адбудаваны параплаў амэрыканскага кшталту — рэжа носам ціхую, цёмную ваду, а ад абодвух яго бартоў бягуць уськіпаючыя пенай нявысокія палосы хваль. Даўно ўжо зышла на зямлю напоўправідная цёплая летняя ноч, і залацісты стоўп ад поўнага месяца ўжо лёг на люстраную гладзь шырокай Волгі. Ён увесь дрыжыць, зыбаецца, пераліваецца агнямі і, папаўшы раптам пад хвалі, узьнятыя параплавам, шырыцца, драбніцца і доўга цягнецца сьветлым сьледам за нашай кармой. Тады здаецца, быццам на вадзе зіяе залатая кальчуга калісьці ўтоплага тут вялікалюда, або быццам залаты невад калышацца на цёмнай гладзі ракі, а ў ім кішма кішыць залатой-жа рыбы. Але патроху рассыплюцца зьвеньне кальчугі, распадзецца залаты невад на безьліч паблытаных, узьвіваючыся, сьветлых ніцяў, ды зьліюцца паміж сабой пераліўчастыя ніткі — і ізноў будзе дрыжэць на рацэ ясны, бліскучы стоўп, быццам залаты шлях да блізкага шчасьця. І так цэлымі гадзінамі ўсё тое-ж: дрыжыць і робіцца залатая пуціна; ледзь-ледзь маячыць лугавы бераг Волгі; цёмным зломам рысуецца на небе гарысты бераг, там-сям гарацъ агнікі бакенаў, у цемні нябачных. Калі-не-калі праплывае міма даўгі чорны плыт з вогнішчам, адбіваючыся чырвонай плямай у цёмна-люстранай вадзе. На міг із змроку выгляне колькі стаячых на плыце чалавецкіх хвігураў, міргане яркаасьветленая сіняя або рожавая кашуля, пачуецца нягучны голас, — пачуецца і сьціхне, і зьнікнуць у цемні постаці плытнікаў, і сам плыт зьгіне з вачэй. Бывае яшчэ — у ціхім паветры загудзіць труба сустрэчнага параплаву, наш яму адгукнецца, замахаюць сыгнальнымі ліхтарнямі, — і праз трохі часу ён прабяжыць каля нас, бліскаючы зялёным бартавым агнём і сьветлымі роўнымі прарэзамі вокнаў, ідучых яркай паласой уздоўж усяго параплаву. З капітанскага мосьціка пачуецца кароткая каманда. Каля борту зашуміць і ўсьпеніцца вада, ажывуць размовы, і зноў пад спакойны гул машыны і шум параплавых колаў агорнуць душу няясныя, але ціхія й мілыя думы. Мяне яны ўжо даўно ўзялі ў палон. Праўда, поруч зы мной на палубнай лаўцы сядзіць, бесьперастанку говорачы, спадарожнік, каторы гадзіны дзьве назад папытаўся аб якойсь драбніцы мяне, завёў гутарку і аж дасюль ня можа стрымацца. Але я нядбала слухаю яго мовы, а яшчэ горш бачу ў цемні яго твар. Толькі, калі ён падносіць запаленую сярнічку да папяросы, укрываючы яе ад цёплага ветрыка рукамі, — агністае сьвятло залівае яго далоні й твар, пальцы па краёх робяцца празрыста-чырвонымі, і зь нягустога змроку выступае чорная бародка, вусы, храшчаваты нос і карыя хваравіта-бліскучыя вочы. Гаворыць ён ёмка, шпарка, як чалавек, каторы выгаладаўся па гутарцы. Я ня спыняю яго, — мне зусім ня хочацца размаўляць, бо Волга закалыхала мяне, і такімі далёкімі, ня торкаючы сэрца, зрабіліся самыя гарачыя словы.

«Хораша ў нас на Волзе! — вымаўляе падарожны грудным, трохі сіпаватым голасам. Шырыня-бо, шырыня-бо якая! Добра сказаў аб гэтым Горкі, Аляксей Максімавіч. Глядзіш, кажа, на Волгу, і не разумееш: ці яна табе ў грудзі плыве, ці сама з тваіх грудзей цячэ. Дый краса-ж тут! Здаецца, нідзе такой красы няма. Глядзеце, як сьветла, — быццам чырвонае золата зыбаецца на рацэ. А калі мы цёмнай ночы пад'едзем да Ніжняга, дык там і ня тое яшчэ пабачым. Вельмі ўжо прыгожы агонь у гэтай цемнаце. Кірмаш за Акой тады і гарыць, і зіяе, музыка ў Глаўным Доме грыміць. З другога боку на самым юры заезд «Восточный Базар» уздымаецца, увесь круглымі электрычнымі малочна-белымі ліхтарамі ўнізаны. Па гарэ, на каторай горад стаіць, уздоўж кажнай дарожкі цягнуцца ланцугі ліхтарных агнёў, а тутака, на самай Волзе, многімі соткамі параплавы й баркі стаяць, з маштаў агнікі глядзяць, параплавы ўнутры асьветленыя, усе вокны зіяюць, аж здаецца, быццам параплаў да краёў сьвятлом наліты. А вада ў Волзе густа-цёмная, і ад усяго гэтага сьвятла па ёй залатыя круі разьбягаюцца, драбняцца, блытаюцца; днішчы параплаваў нібы агнявымі водарасьцямі абрастаюць... Эх, ды што гаварыць: бачыць гэтае трэба, бачыць...

(Далей будзе)

